Гродна
№14 (496),
8 ліпеня 2018

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



ДА 75-ГОДДЗЯ СМЕРЦІ БЛАСЛАЎЛЕНЫХ МУЧАНІКАЎ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ



# МУЖНЫЯ І БЯССТРАШНЫЯ

**II Сусветная вайна (1939–1945 гады) адбілася крывавай плямай у гісторыі чалавецтва. Гэта быў найбуйнейшы ўзброены канфлікт, дзеянні якога праходзілі на тэрыторыі 40-ка краін свету. Паводле розных ацэнак, за час II Сусветнай вайны загінула ад 50-ці да 80-ці мільёнаў чалавек. Сярод іх – благаслаўлёныя мучанікі, якія свядома і дабравольна ішлі на смерць, каб уратаваць іншых людзей.**

*працяг на с. 3*

# Марыя, вядзі нас да свайго Сына!



*Абрад устанаўлення новага пробашча ў парафіі ўзначаліў кс. канонік Генрых Яблоньскі*

Падчас урачыстасцей у дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч афіцыйна аб’явіў аб прызначэнні новага кусташа санктуарыя, якім стаў кс. Юрый Бяганскі. За тыдзень да гэтай падзеі мясцовыя вернікі сардэчна прынялі яго як пробашча парафіі. Як адчувае сябе на новым месцы святар і ці будуе якіясьці планы адносна развіцця марыйнага культу на тэрыторыі санктуарыя? Пра гэта і многае іншае ў спецыяльным інтэрв’ю для “Слова Жыцця”.

*працяг на с. 4*

“Касцёл без мучанікаў – гэта Касцёл без Хрыста”. Папа Францішак

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**XIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 6, 1–6**

Езус прыйшоў на сваю бацькаўшчыну. А за Ім ішлі Ягоныя вучні. Калі настала субота, Ён пачаў вучыць у сінагозе. Многія, хто слухаў, здзіўляліся і казалі: "Адкуль у Яго гэта, і што гэта за мудрасць, якая дадзена Яму, і як такія цуды чыняцца Ягонымі рукамі? Ці ж гэта не цясляр, сын Марыі, брат Якуба, Юзафа, Юды і Сымона? Ці ж не тут сярод нас Ягоныя сёстры?". І сумняваліся ў Ім. А Езус казаў ім: "Няма прарока без пашаны, хіба што на бацькаўшчыне сваёй, у родных і ў доме сваім". Таму не мог там учыніць ніякага цуду, толькі на некалькі хворых усклаў рукі і аздаравіў іх. І дзівіўся іх бязвер'ю. І хадзіў па навакольных вёсках, і вучыў.

### НЯЛЁГКА, АДНАК МАГЧЫМА

Езус прыбывае ў родныя мясціны. Аднак не можа здзейсніць там шмат чаго з-за няверства мясцовых жыхароў. Яны не здолелі ў чалавечым абліччы разглядзець Бога!

У нашым жыцці часта адбываецца падобнае. Чакаем цудаў, якія вырашаць нашы грамадскія, сямейныя, фінансавыя праблемы. Перашкодай да здзяйснення Богам такога цуду з'яўляецца недахоп веры, таму што цуд можа адбыцца толькі тады, калі чалавек адкрываецца на Усемагутнага, слухае Яго і выражае сваю гатоўнасць да спаўнення Яго волі. Канешне, гэта нялёгка, але магчыма. Пан нястомна дае чалавеку чарговы шанс, каб глыбей паверыць, каб цуд здзейсніўся.

Няхай наша вера не будзе толькі эмацыянальным слуханнем Хрыста, але найперш канкрэтным перакладаннем Яго слоў на ўласнае жыццё. А гэта становіцца магчымым толькі тады, калі мы можам поўнасцю даверыцца Стварыцелю.

**Ці веру, што Бог сапраўды мне дапамагае?**

**Чаго мне не хапае, каб быць чалавекам веры?**

**XV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Мк 6, 7–13**

Езус паклікаў Дванаццаць і пачаў высылаць іх па двое, і даў ім уладу над нячыстымі духамі. І наказаў ім не браць у дарогу нічога, апрача толькі кія: ні хлеба, ні торбы, ні медзі ў поясе, але абувацца ў сандалі і не апранаць дзвюх вопраткаў. І сказаў ім: "Калі дзе ўвойдзеце ў дом, заставайцеся там, пакуль не выйдзеце адтуль. І калі ў якім месцы не прымуць вас і не будуць слухаць вас, то, выходзячы адтуль, абтрасіце пыл, што пад нагамі вашымі, дзеля сведчання супраць іх". І, пайшоўшы, яны прапаведавалі пакаянне, і выганялі шмат дэманаў, і шмат хворых намашчвалі алеем, і вылечвалі.

### НЕ КРЫВАДУШНА, А Ў ПРАСТАЦЕ СЭРЦА

Езус перадае апосталам місію абвяшчэння Божага слова. Дае ім асаблівую моц, што дазваляе панаваць над духамі і вылечваць хваробы, а таксама падказкі і рэкамендацыі, якія можна назваць правіламі місійнай дзейнасці ранняга Касцёла. Рэкамендуе ім практыкаванне ўбоства, заахвочвае да ўсведамлення сваёй місіі, мужнасці і веры ў моц абвяшчэння Слова.

Да гэтага пакліканы таксама кожны з нас. Мы павінны абвяшчаць Евангелле не крывадушна, а ў прастаце сэрца. Павінны абвяшчаць яго заўсёды: у кожны час і ў кожны перыяд свайго жыцця, у хвіліны радасці і смутку, калі нічога нас не турбуе і калі страшна пакутуем... Заўсёды! Варта памятаць, што ў абвяшчэнні Добрай Навіны няма перапынку на водпуск ці канікулы. Сваёй паставай маем нястомна сведчыць аб тым, што нашым Панам з'яўляецца Езус Хрыстус.

**Як усведамляю місію абвяшчэння Добрай Навіны?**

**Якая мая вера ў моц абвяшчаемага Слова?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Касцёл мучанікаў

*З зараджэння хрысціянства вернікі аддавалі сваё жыццё за веру ў Хрыста. Падмуркі Касцёла выкуплены ахвярамі шматлікіх паслядоўнікаў Езуса, якія за прыналежнасць да свайго Збаўцы пакорна прымалі страшныя пакуты і жудасную смерць.*

Здаўна пануе перакананне, што кроў мучанікаў з'яўляецца пасевам новых хрысціян. Героі веры прайшлі шлях ачышчэння, добраахвотна прымаючы боль і пакуты, не губляючы пры гэтым чалавечай годнасці. "Гэта тыя, хто прыйшоў з вялікага ўціску і абмыў адзенне сваё, і выбеліў яго ў крыві Ягняці" (Ап 7, 14).

Аддаючы жыццё па прыкладзе Настаўніка, вызнаўцы Хрыста становяцца сапраўднымі сведкамі хрысціянскай веры. Яны прыгадваюць нам, што мучаніцтва з'яўляецца найвышэйшым уцелаўленнем Евангелля, паколькі абвяшчаюць Добрую Навіну сваім жыццём. Не могуць жыць без Хрыста і жадаюць лепш памерці, чым здрадзіць Яму, бо перакана080 ныя, што Езус – Пан і Збаўца, і таму толькі ў Ім чалавек можа знайсці сапраўдную паўнату жыцця... (параўн.: Ecclesia in Europa, №13).

XX стагоддзе можна прызнаць адным з найбольш крывавых перыядаў у гісторыі, назваць эпохай масавых замахаў на чалавечае жыццё. Асаблівым чынам пакутавалі з-за гэтага краіны былога Савецкага Саюза. Тут ламалі Божы закон і асноўныя правілы хрысціянскай этыкі. Не абмінула такая доля і тэрыторыю нашай краіны.

1941–1945 гады – гэта час гераічнай мужнасці народа Беларусі ў гатоўнасці зносіць мукі для Хрыста. Яны сталі самым жудасным у гісторыі выпрабаваннем, аплочаным мільёнамі ахвяр і каласальнымі стратамі як у матэрыяльнай сферы, так і ў маральна-духоўнай. Але гэты перыяд даў нашым землям многіх мучанікаў, што пазней былі ўзведзены да хвалы алтара.

У бягучым годзе прыпадае 75-ая гадавіна смерці сясцёр мучаніц з Навагрудка і Мар'яны Бярнацкай, памяць якіх асаблівым чынам ушаноўваецца ў Гродзенскай дыяцэзіі. Жыццё гэтых асоб з'яўляецца для вернікаў прыкладам для пераймання. Праз акт беатыфікацыі, што папярэднічае этапу кананізацыі, Касцёл афіцыйна далучыў іх да ліку блаславёных.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце ўглядацца ў прыклад блаславёных мучанікаў нашых зямель, у прыклад іх бязмежнай адданасці Хрысту і Евангеллю. Просім Бога, каб і нам заўсёды даваў сілы, каб былі Яго вернымі сведкамі, жылі хрысціянскай надзеяй, асабліва ва ўтоеным пакутніцтве – выконваючы штодзённыя абавязкі добра, сумлення і з любоўю.




# СВ. БРЫГІТА ШВЕДСКАЯ: ЗАСТУПНІЦА ПІЛІГРЫМАЎ



*У іканаграфіі св. Брыгіта прадстаўлена ў кароне з белага палатна з 5-цю чырвонымі знакамі, што сімвалізуюць 5 ран Езуса. Яе атрыбутамі з'яўляюцца геральдычны леў, карона, кніга, птушынае пяро, пілігрымскі капялюш, сэрца і крыж.*

**У старэйшым узросце шмат пілігрымавала ў святыя месцы: Рым, Святую Зямлю. З'яўляецца заступніцай паломнікаў, а таксама апякункай добрай смерці. Разам са св. Кацярынай Сіенскай і св. Тэрэзай Бенедыктай ад Крыжа апекуецца Еўропай, з'яўляецца заступніцай Швецыі.**

**КЛАПАЦІЛАСЯ АБ ЕДНАСЦІ КАСЦЁЛА**

Брыгіта нарадзілася ў 1303 годзе ў Фінстад каля Упсала (Швецыя). Паходзіла са шляхетнага роду. У маладым узросце засталася без бацькі. Маці хутка выдала дачку замуж, хоць тая хацела стаць манахіняй. На шчасце, абраннік, Ульф Гудмарсан, аказаўся чалавекам высакародным і такім жа набожным, як сама Брыгіта. Былі шчаслівым сужэнствам, у якім нарадзілі 8 дзяцей.

Калі дзеці выраслі, сужэнцы разам накіраваліся на Каміна дэ Санцьяга (Іспанія). Каб дабрацца да санктуарыя св. Якуба, яны патрацілі 2 гады. На жаль, падчас зваротнага шляху Ульф захварэў і ў хуткім часе пасля вяртання ў Швецыю адышоў у вечнасць. Сужэнцы пражылі разам 28 гадоў.

У той час Брыгіта ўжо была шырока вядомая не толькі ў сваёй краіне. Яна падтрымлівала кантакты з самымі інтэлектуальна і духоўна моцнымі тэолагамі тых часоў. Была адной з найлепш адукаваных жанчын XIV стагоддзя. У "Кнізе аб'яўленняў" Брыгіта запісвала прадказанні, якія датычылі Касцёла, Папаў, што жылі ў яе часы, лёсаў дзяржаў і іх тагачасных кіраўнікоў. Была перакананая, што піша тое, што ёй дыктуе Хрыстос. Заклікала да выпраўлення маралі, пагражала Божым пакараннем. Перапісаны змест яе бачанняў у копіях кружыў па Еўропе.

Галоўным клопатам Брыгіты было вяртанне Папы з Франццыі, з т. зв. авіньёнскага палону, у Рым (Італія). Непакоілася таксама з-за ўзрастаючай колькасці сект, бо прагнула еднасці Касцёла. Карысталася сваімі кантактамі і аўтарытэтам, каб прадухіляць міжнародныя канфлікты, указваць на памылкі і рэфармаваць адносіны ў Касцёле. З мэтай малітвы ў гэтых інтэнцыях стварыла Ордэн Найсвяцейшага Збавіцеля (брыгіткі).

Памерла, як сама прадказала, 23 ліпеня 1373 года ў Рыме. У яе пахаванні ўдзельнічалі тлумы вернікаў. Хронікі падаюць, што з нагоды пахавання Брыгіты мноства хворых былі аздароўлены. Цела жанчыны праз Корсіку, Штырыю, Маравію і Польшчу было перапраўлена ў Швецыю, дзе спачыла ў кляштары ў Вадстэне, які яна заснавала.

Дзякуючы намаганням дачкі Кацярыны, у будучым таксама святой, Брыгіта была кананізавана ўжо ў 1391 годзе. У 1489 годзе рэліквіі маці і дачкі змясцілі ў адной урне. Пасля пераходу Швецыі ў 1595 годзе ў пратэстантызм, гэтыя рэліквіі зніклі.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. БРЫГІТЫ?**

Святая заклікае, каб мы вярнуліся да вытокаў. Указвае, што адзінай дарогай вечнага шчасця з'яўляецца трыванне поруч з Богам. Гэта асабліва актуальна сёння, калі хрысціянскія вартасці ссоўваюцца на абочыну жыцця.

**ЦІКАВА!**

Св. Брыгіта заснавала т. зв. "двайны" кляштар (у сярэднявеччы дастаткова частая з'ява). У адным крыле жылі манахіні, у другім – манахі. Сустракаліся яны толькі ў капліцы на літургіі, а камунікацыя паміж суполнасцямі адбывалася пры дапамозе паваротнай паліцы, называнай бубнам. У жаночую частку будынка меў доступ толькі святар, які выконваў абавязкі спаведніка сясцёр.

**З ВУСНАЎ СВЯТОЙ**

"Сапраўды мудры той, хто ведае адно слова: любоў".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Брыгіту Шведскую 23 ліпеня.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# МУЖНЫЯ І БЯССТРАШНЫЯ

● працяг са с. 1

## ДАЙЦЕ РУЖАНЕЦ...

За гады акупацыі на тэрыторыі Беларусі гітлераўцы правялі больш за 140 карных аперацый. Фашысты палілі гарады і вёскі, расстрэльвалі мірнае насельніцтва, вывозілі жыхароў на прымусовыя працы ці на медыцынскія эксперыменты ў лагеры смерці. На думку гісторыкаў, страты на тэрыторыі Беларусі акаазаліся нашмат большыя, чым у якой-небудзь іншай краіне свету. За час вайны тут загінуў кожны 3-ці.

У іх шэрагу стаяць бласлаўлёныя мучанікі, якія акрапілі сваёй крывёю тутэйшыя землі. Каталіцкі Касцёл беатыфікаваў іх у 1999–2000 гадах. Мясцовыя вернікі горача звяртаюцца праз іх да Бога, верачы ў моц заступніцтва.

У 1943 годзе каля Навумавічаў, што на Гродзеншчыне, нямецкімі акупантамі былі жорстка расстраляны жыхары Гродна і Ліпска. Такім чынам гітлераўцы вырашылі адпомсціць за забіццё партызанамі нямецкага паліцая. Папярэдне былі складзены спісы, адбываліся масавыя арышты. У лік арыштаваных трапіла таксама сужэнства Станіслава і Ганны Бярнацкіх, якое чакала нараджэння дзіцяці. Мар'яна, маці Станіслава, з плачам кідалася ў ногі нямецкаму салдату і прасіла забраць яе замест цяжарнай нявесткі.

Пасля непрацяглага побыту ў гродзенскай вязніцы маці разам з сынам і іншымі арыштаванымі вывезлі на фарты каля Навумавічаў, дзе 13 ліпеня 1943 года расстралялі. Вядома, што чакаючы пакарання, жанчына прасіла толькі аб адным: каб ёй далі ружанец.

Ганна Бярнацкая нарадзіла дачку. Сёння праўнук Мар'яны Бярнацкай прыязджае на месца спачыну выратавальніцы роду. Штогод у ліпені туды вырушае пешая пілігрымка з Гродна.





## У АХВЯРУ ЗА ТЫХ, У КАГО ЁСЦЬ СЕМ'І

Шмат праблем гарнізону акупантаў падчас вайны стварылі партызанскія вылазкі. Узлаваныя гітлераўцы вырашылі спагнаць свой гнеў на мірных жыхарах Навагрудка. 18 ліпеня 1943 года яны арыштавалі каля 120-ці чалавек (па адных звестках, у асноўным бацькаў сямей, па іншых – жанчын і дзяцей). Родныя вязняў ішлі па суцяшэнне ў касцёл. Сёстры назарэтанкі, кляштар якіх знаходзіўся ў горадзе, горача маліліся аб выратаванні ўсіх і кожнага паасобку. Хадзілі чуткі, што дадому арыштаваныя жывымі не вернуцца. У сценах святыні манахіні прынялі для сябе нялёгкае рашэнне.

Настаяцельніца кляштара назарэтанак с. Марыя Стэла звярнулася да нямецкіх улад з просьбай адпусціць арыштаваных, замяніўшы іх на сясцёр: "Мой Божа, калі патрэбна ахвяра жыцця, няхай лепш нас расстраляюць, чым тых, у каго ёсць сём'і". Замест пакарання людзей адправілі на прымусовыя работы ў Германію, а сясцёр вызвалі ў гестапа. Манахіні разумелі, што ідуць на смерць.

Ноччу ў падвале камісарыята сёстры па чарзе маліліся, ляжалі крыжам на халоднай падлозе. На наступны дзень, на світанні 1 жніўня, 11 манахінь былі расстраляны ў лесе недалёка ад Навагрудка.

Пасля вайны адбылася эксгумацыя цел сясцёр. Яны былі пахаваны ў адзінай магіле каля навагрудскага фарнага касцёла, потым астанкі перазахавалі ў саркафагу ў капліцы святыні. Штогод у жніўні на месцы мучаніцкай смерці сясцёр пілігрымы ўшаноўваюць памяць манаскага подзвігу.

## ПАСТУХ ТАМ, ДЗЕ АВЕЧКІ

Вялікая драма разгарнулася ў ліпені 1943 года на Міншчыне. Немцы распачалі аперацыю "Германн", мэтай якой было знішчэнне партызанскага руху ў Налібоцкай пушчы. 19 ліпеня яны з'явіліся ў Пяршаях, каб адпомсціць мясцовым жыхарам за дапамогу партызанам, і выгналі каля 200 жыхароў з дамоў на вуліцу: жанчын – у адзін хлеў, мужчын – у другі. Фашысты мелі намер спаліць людзей жыўцом. Сярод іх былі таксама а. Ахілес Пухала і а. Герман Стэмпень, францысканцы.

За дзень да гэтага камендант паліцыі, які жыў у доме пробашча мясцовай парафіі і быў каталікам, папярэдзіў айцоў, каб тыя схаваліся, абяцаў дапамагчы ім уцячы. Але святары адказалі, што не могуць пакінуць сваіх вернікаў: "Якія ж мы тады пастыры? Пастух павінен быць там, дзе авечкі".

Айцы выйшлі да немцаў на перамовы, пасля чаго захопнікі выпусцілі людзей з хлявоў, выбраўшы сярод усіх каля сотні мужчын. Іх калонай пагналі ў бок Баравікоўшчыны. На чале калоны ішлі 2 святара. На месцы палонных сустрэлі немцы. Яны пачалі размову з айцамі. Праз нейкі час душпастыры супакоілі людзей, што тыя будуць жыць. Паблаславілі вернікаў – і больш іх ніхто ніколі не бачыў.

Арыштаваныя не ведалі, што здарылася са святарамі. Мужчын пагналі далей у бок Мінска, але, на дзіва, недалёка за вёскай вызвалілі. Яны вярнуліся дадому, а манахаў нямецкія афіцэры застрэлілі ў хляве на ўскраіне вёскі, пасля чаго будынак спалілі. Ёсць сведчанні, што перад смерцю святары перанеслі страшныя пакуты.

Памяць аб гэтым гераічным подзвігу жыве і сёння. Касцёл у Пяршаях мае статус санктуарыя бл. мучанікаў з ордэна францысканцаў а. Ахілеса Пухалы і а. Германа Стэмпеня. Штогод у ліпені сюды скіроўваюцца шматлікія пілігрымы, каб памаліцца ля рэліквій пакутнікаў.







## З ВЕРНІКАМІ ДА КАНЦА!

Жудасная трагедыя адбылася падчас вайны ў Росіцы на Віцебшчыне. 16–18 лютага 1943 года ў ходзе нямецкай карнай аперацыі пад цынічнай назвай "Зімовае чараўніцтва" вёска цалкам была вынішчана. Немцы хацелі стварыць на поўначы Беларусі мёртвую зону без населеных пунктаў шырынёй 30–40 км, каб пазбавіць партызан іх апорных кропак.

Фашысты сагналі ўсіх жыхароў Росіцы, а таксама навакольных вёсак у мясцовы касцёл "для разбору". Напаўраспранутыя зімой, без ежы і вады тысячы людзей са страхам чакалі вырашэння свайго лёсу. Выходзіць са святыні было дазволена толькі святарам. Кс. Юрый Кашыра і кс. Антоній Ляшчэвіч пад адзеннем прыносілі ў касцёл ваду і хлеб, які пяклі сёстры эўхарысткі. Аддавалі для падтрымання вогнішча касцёльнае ўбранства, каб сагрэць хоць бы дзяцей. Амаль бесперапынна спавядалі людзей, перад абліччам смерці хрысцілі і нават вянчалі. Як маглі, падтрымлівалі вернікаў. Калі карнікі прапанавалі святарам пакінуць месца аперацыі, захаваўшы сабе жыццё, тыя вырашалі застацца з людзьмі да канца. Такім чынам дабравольна пайшлі на смерць.

Дзяцей, моладзь і здаровых дарослых немцы дэпартавалі ў лагер смерці Саласпілс (сёння тэрыторыя Латвіі), частку з іх – на працы ў Германію. Астатнія жыхары былі зажыва спалены ў вялікіх хатах і хлявах. А разам з імі і адважныя святары, якія не пакінулі сваю паству.

На месцы аднаго з чорных кастрышчаў, дзе загінуў і кс. Юрый Кашыра, знойдзены рэшткі працэсійнага крыжа і абгарэлай рукі з заціснутым у далоні ружанцам.

Двойчы ў год – у лютым і жніўні – у Росіцы збіраюцца пілігрымы. Са свечкамі ў руках яны ідуць апошняй дарогай пакутнікаў да брацкай магілы, каб ушанаваць памяць бязвінна загінулых людзей.

## БЕЛАРУСЬ, АСВЕЧАНАЯ КРЫВЁЮ ПАКУТНІКАЎ

**Амаль 75 гадоў мінула, як на нашых землях Богу аддалі душы мучанікі II Сусветнай вайны. Узведзеныя да ліку бласлаўлёных, яны з'яўляюцца для вернікаў прыкладам годнага хрысціянскага жыцця, бясстрашнасці і поўнага даверу Найвышэйшаму. Няхай іх заступніцтва перад Богам напоўніць нашы сэрцы мужнасцю і адвагай перад любымі цяжкасцямі.**

*Ангеліна Пакачайла,*
*выкарыстаны фота catholic.by*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Хрысціянскае жыццё – гэта, перш за ўсё, удзячны адказ велікадушнаму Айцу. Хрысціяне, якія выконваюць толькі "абавязкі", прызнаюцца, што не маюць асабістага досведу таго Бога, які з'яўляецца "нашым". Маўляў, я павінен рабіць тое, тое і тое... Толькі абавязкі. Але гэта значыць, што Табе чагосьці не хапае... Быць хрысціянінам – гэта шлях вызвалення! Запаведзі вызваляюць Цябе ад эгаізму, бо ёсць Божая любоў, якая вядзе наперад. Хрысціянская фармацыя грунтуецца не на сіле волі, але на прыняцці збаўлення, на тым, каб дазволіць любіць сябе.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 27.06.2018*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*У літургічным календары мы бачым толькі 3 святы нараджэння: гэта Божае Нараджэнне, калі адзначаем прыход у свет Збаўцы, нараджэнне Марыі, Маці Хрыста, і нараджэнне св. Яна Хрысціцеля. Гэты факт нагадвае аб выключнасці асобы прарока ў гісторыі збаўлення [...].*
*Св. Ян Хрысціцель абвяшчаў бескампрамісны стыль жыцця, падобна чыніць і Касцёл. "Я зраблю цябе святлом народаў, каб збаўленне Маё дасягнула аж да краю зямлі" (Іс 49, 6). Гэтыя словы Бога адносяцца не толькі да св. Яна Хрысціцеля, але да кожнага хрысціяніна. Мы ўсе пакліканы словам і прыкладам жыцця сведчыць пра Езуса Хрыста. Няхай у гэтым умацоўвае нас Ён, якога слухаем у слове Божым і прымаем у св. Камуніі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас парафіяльнага адпусту ў касцёле св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе, 24.06.2018*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Менавіта тут, на гэтай зямлі, на працягу многіх гадоў жывы культ св. Яна Хрысціцеля, якога Вашы продкі абралі сваім асаблівым апекуном. Ён уласным жыццём і навукамі, якія абвяшчаў, рыхтаваў шлях да прыйсця Хрыста. Сутнасць навукі св. Яна Хрысціцеля можна назваць указваннем шляху апосталаў. Ён заўсёды паказваў іншым на Езуса, заклікаў да змены жыцця. "Падрыхтуйце дарогу Пану, простымі рабіце сцежкі Яму" (Мк 1, 3) – у гэтых словах св. Ян Хрысціцель хацеў нагадаць людзям, каб не змянялі Хрыстовай навукі [...].*
*Раўняць сцежкі Богу – гэта значыць, жыць сапраўды паводле ўказанняў Хрыста, не змяняць Яго наказаў, не паддавацца сумненням, а развіваць цноты. Знакам праўдзівасці хрысціянскага жыцця няхай будуць розныя добрыя ўчынкі, якія мы здзяйсняем адзін для другога.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай на ўрачыстасці 400-годдзя кансэкрацыі касцёла св. Яна Хрысціцеля ў Гальшанах, 08.07.2018*



◆ У базіліцы св. Пятра ў Ватыкане адбыўся звычайны публічны кансісторый, на якім Святы Айцец Францішак далучыў да Калегії Кардыналаў 14 новых членаў. Кожны з іх атрымаў ад Пантыфіка кардынальскі берэт, персцень і булу з вызначаным тытулярным касцёлам у Рыме (гэта сімвалічнае далучэнне кардынала да прэзбітэрыя Рымскай дыяцэзіі). Намінуючы новых кардыналаў, Папа прызначыў ім таксама тытулярныя касцёлы і дыяконіі.

◆ У Ватыкане ў рамках візіту прэзідэнта Французскай Рэспублікі Эмануэля Макрона адбылася яго сустрэча з папам Францішкам. Святы Айцец прыняў прэзідэнта на аўдыенцыі. Падчас размовы былі ўзняты такія глабальныя пытанні, як ахова навакольнага асяроддзя, міграцыя і шматбаковыя абавязацельствы па прадухіленні і ўрэгуляванні канфліктаў. Макрон урачыста прыняў у Ватыкане тытул ганаровага протаканоніка Латэранскай базілікі. Прэзідэнт падкрэсліў, што яго рашэнне прадыктавана імкненнем паглыбіць адносіны са Святым Пасадам, якія могуць служыць справе міру і агульнага дабра.

◆ Згодна з вынікамі сусветных даследаванняў, праведзеных амерыканскім цэнтрам PEW, Грузія і Гана – адзіныя краіны свету, дзе людзі ва ўзросце ад 18-ці да 39-ці гадоў больш набожныя, чым людзі, старэйшыя за 40 гадоў. Асабліва вялікае разыходжанне паміж малодшымі і старэйшымі вернікамі на карысць апошніх выяўлена ў ЗША, а таксама ў Польшчы, Грэцыі, Чылі, Румыніі і Партугаліі. Даследчыкі робяць вывады, што кожнае наступнае пакаленне ў стабільна развітым грамадстве будзе менш рэлігійным, чым папярэдняе.

◆ Урачыстасць Нараджэння Яна Хрысціцеля арыгінальна адзначаецца ў Аліага, што ў 100 км на поўнач ад сталіцы Філіпінаў. Па словах мясцовага святара Элмера Віламаёра, гэтая традыцыя бярэ пачатак у 1944 годзе, калі мясцовыя жыхары былі вызвалены ад расстрэлу падчас акупацыі японцаў (пайшоў моцны лівень). Людзі палічылі, што абавязаны сваім выратаваннем св. Яну, які хрысціў Збавіцеля вадой. У памяць аб гэтай падзеі ўдзельнікі цырымоніі змазваюць свае целы брудам і накрываюць іх лістамі бананаў. Затым мыюцца і ідуць на св. Імшу.

◆ Англійская фірма "Butler & Butler", якая шые вопратку для духавенства, выпусціла першую сутану з высакаякаснага поліэстэру, атрыманага з 100% перапрацаванага пластыка. Ідэя вытворчасці – следства вялікай цікавасці, выкліканай дакументальным фільмам BBC пад назвай "The Blue Planet" ("Блакітная планета"), дзе ўвага засяроджваецца на ўплыве дзейнасці чалавека і згубнага пластыка на экасістэмы. Падчас мінулага Вялікага посту Касцёл Англіі заахвочваў вернікаў увогуле адмовіцца ад выкарыстання пластыкавых вырабаў.

*credo.pro; ekai.pl; niedziela.pl*

# Марыя, вядзі нас да свайго Сына!



Кс. Юрый Бяганскі цэлебраваў св. Імшу ў інтэнцыі ўсёй тракельскай парафіі

● праця́г са с. 1

***– Кс. Юрый, віншуем Вас з прызначэннем на новую пасаду! І нават, трэба заўважыць, не на адну. Падзяліцеся, калі ласка, ці было гэтае рашэнне нашага ардынарыя для Вас нечаканасцю?***

– Па праўдзе, я пакуль што яшчэ не магу да канца ўсё ўсвядоміць... Разумею, што атрымаў новае поле для душпастырскай дзейнасці. А гэта новыя выклікі, заданні, адказнасць. Магу з упэўненасцю сказаць: буду рабіць у парафіі ўсё магчымае, што ад мяне як святара залежыць.

***– Вы прыбылі ў парафію ў Тракелі як пробашч за тыдзень да штогадовых ліпеньскіх урачыстасцей. Ці адчувалі разгубленасць з-за кароткага тэрміну, які застаўся для адаптацыі на новым месцы, і для належнай падрыхтоўкі дыяцэзіяльнага свята?***

– Я ў гарачай вадзе купаны! *(смяецца – заўв. аўт.)*. Насамрэч, мне нічога ў жыцці не даецца лёгка. Але мяне ніколі гэта не спыняе, наадварот – разахвочвае. Заўсёды адчуваю дапамогу "зверху". Дзякуючы гэтай падтрымцы бачу, як усе складанасці з часам вырашаюцца, усё задуманае ажыццяўляецца.

Наш ардынарый адкрыты на Святога Духа, і я з пакорай прыняў Божы Провід. А яшчэ мне пашчасціла сустрэць тут адкрытых і чулых людзей. На наступны дзень пасля таго, як атрымаў ключы ад святыні, склікаў актыўных парафіян і паведаміў, што мне патрэбна дапамога. Адразу сфарміраваўся штаб адказных вернікаў. Кожны з іх сабраў сваю каманду – і справа падрыхтоўкі да ўрачыстасцей пачалася!

Вельмі прыемна, што людзі тут гатовыя ахвяраваць свой час і здольнасці. Запэўніваюць, што ім не надта па сілах пасадзейнічаць у нейкіх матэрыяльных справах, але, як кажуць, "нашы рукі заўсёды гатовы да працы". Бачу, што і мясцовыя ўлады ідуць насустрач. Думаю, мы ўсе спрацуемся для таго, каб Тракелі былі вядомым духоўным і турыстычным цэнтрам.

***– Маеце нейкія канкрэтныя планы на гэты конт?***

– У наступным годзе будзем святкаваць 25-годдзе ўстанаўлення ў Тракелях Дыяцэзіяльнага санктуарыя Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў, 10-годдзе каранацыі цудадзейнага абраза, а таксама 220 гадоў з моманту пабудовы мясцовага касцёла. Вядома, чакаецца шмат гасцей. Хочацца, каб усё было на ўзроўні. У планах – акультурыць прылягаючую да святыні тэрыторыю, надаць асаблівую ўвагу пілігрымкам, якія, на жаль, з кожным годам усё меншаюць. А яшчэ ў перспектыве разглядаю рэформу традыцыйнай праграмы ўрачыстасцей.



На заканчэнне св. Імшы святара сардэчна прывіталі мясцовыя вернікі

***– Лічыце, пілігрымковы рух недастаткова развіты?***

– Сёння ў Тракелі ідзе 5 пешых пілігрымак: з Гродна, Ваўкавыска, Навагрудка, Іўя, Ашмянаў. Лічу, што для дыяцэзіі з такой вялікай колькасцю католікаў гэтага вельмі мала. Трэба развіваць у вернікаў цікавасць да пешых паломніцтваў... Пакуль не бачу канкрэтных крокаў, якія трэба зрабіць у гэтым накірунку, але мэта, бясспрэчна, будзе дасягнута. Абавязкова. Давядзецца зрабіць каласальную працу і перагледзець усю структуру, якая задзейнічана ў пілігрымковым руху ў нашай дыяцэзіі.

***– А што зараз, на Ваш погляд, знаходзіцца на годным узроўні? Што трэба берагчы і захоўваць?***

– Сёння ў дыяцэзіяльны санктуарый у прыгожых святочных уборах прыязджаюць "першакамунійныя" дзеці. Яны скіроўваюцца да абраза Маці Божай Тракельскай, каб падзякаваць за дар Эўхарыстыі. Хочацца, каб кожная парафія мела такую цудоўную традыцыю.

Не менш прыгожым звычаем з'яўляюцца сустрэчы ў дыяцэзіяльным санктуарыі такіх груп вернікаў, як Апостальства вечнай малітвы за святароў "Маргарытка", Колаў Жывога Ружанца, Францішканскага ордэна свецкіх... Добра было б, каб усе рухі і душпастырствы нашай дыяцэзіі знаходзілі час на спатканне ў марыйным санктуарыі і даручэнне Маці Божай сваіх праблем і цяжкасцей, поспехаў і радасцей.

***– Наколькі Вам блізкія Тракелі? Ці маеце асабістую гісторыю, звязаную з гэтым месцам?***

– Упершыню я трапіў у Тракелі ў 2000 годзе пілігрымам, быў яшчэ школьнікам. Тады я разам з групай з Ішчолна далучыўся да пешай пілігрымкі Ваўкавыск – Тракелі. Памятаю, колькі ў мяне было захаплення! Такое цікавае падарожжа: у дарозе пяюць песні, начлегі ў незнаёмых людзей... Другі раз я пайшоў у пілігрымку ўжо кандыдатам у семінарыю. Адчуваў вялікі гонар, выбраўшы такую жыццёвую дарогу. Крочыў да Марыі з інтэнцыяй, каб Яна выпрасіла ў Сына неабходныя ласкі і сілы для майго далейшага служэння. Я на самым пачатку свайго шляху непакоіўся аб тым, ці змагу годна несці душпастырскую паслугу. І давяраў Марыі... Дыяканскую практыку я праходзіў у Тракелях.

***– Адчуваеце прысутнасць Марыі ў Вашым жыцці?***

– Да Маці Божай я звяртаюся штодня. Заўважаю, калі аддаю ў малітве цяжкасці свайго жыцця, заўсёды адчуваю падтрымку. Усё, што прашу на ружанцы, атрымліваю.

Калі я спыняюся і гляджу з боку на сваё жыццё, разумею, што Марыя заўсёды са мною побач. Я нарадзіўся напярэдадні літургічнага ўспаміну Маці Божай Грамнічнай. Пасля назначэння неаднаразова прыязджаў у парафіі на марыйныя святы. Так было, напрыклад, калі прыбыў у радунскую парафію Маці Божай Ружанцовай. Гэта адбылося ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У лідскую парафію Святой Сям'і я прыехаў у свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. І нават сваім пакліканнем да святарства я абавязаны Маці Божай. Як аднойчы высветлілася ў размове з маім далёкім сваяком па марынскай лініі, ён ажно 15 разоў хадзіў у пілігрымцы ў Чанстахову з адной пэўнай інтэнцыяй: каб хтосьці з яго родных стаў святаром. Я бясконца ўдзячны свайму сваяку за вымаленую для мяне сцежку, а Марыі – за тое, што выпрасіла ў Сына такі дар.

***– З якім дэвізам крочыце па святарскім шляху?***

– Марыя, вядзі нас да свайго Сына!

***– Поспехаў Вам! Няхай усё задуманае атрымаецца.***

– Вялікі дзякуй. Праз рукі Марыі!



***◆ Кс. Юрый Бяганскі нарадзіўся 01.02.1983 года. Паходзіць з парафіі Ішчолна (дэканат Шчучын). У 2001 годзе паступіў у Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю. Святарскія пасвячэнні прыняў з рук біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча 24.11.2007 года. У 2008 годзе служыў вікарыем у парафіі Маці Божай Ружанцовай у Радуні, у 2008–2012 гадах – у парафіі Святой Сям'і ў Лідзе, у 2012–2018 гадах – у парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Лідзе. З 2014 года апекаваўся капліцай Маці Божай з Лурд у лідскай бальніцы. У 2017 годзе выдаў малітоўнік для хворых. Скончыў Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт ім. Яна Паўла II. Мае ступень ліцэнцыята ў галіне літургікі.***

*Ангеліна Пакачайла*

# 400-годдзе касцёла і кляштара адзначылі ў Гальшанах



***Святочнае набажэнства з нагоды юбілею ўзвядзення каталіцкай святыні і кляштара айцоў францысканцаў узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. На ўрачыстасці, якая адбылася напярэдадні свята Нараджэння св. Яна Хрысціцеля, сабраліся шматлікія госці: святары, манаскія сёстры, прадстаўнікі свецкай улады, парафіяне і вернікі з суседніх мясцовасцей.***

Напачатку прысутныя мелі магчымасць здзейсніць экскурс у мінулае, даведацца, як паўставала святыня і кляштар. Гістарычнае паведамленне з прэзентацыяй падрыхтавала Вікторыя Янушкевіч. Валянціна Лабуніна паказала жыццё касцёла праз аб’ектыў фотаапарата. Яе аўтарская выстава, арганізаваная з дапамогай мясцовай школы, разгарнулася пры святыні.

Сабраныя ўспомнілі тых, хто ўнёс уклад у духоўнае жыццё парафіі: фундатара касцёла і кляштара Паўла Стэфана Сапегу – стайніка ВКЛ і ашмянскага старасту, а пазней літоўскага падканцлера. Будучы ўладальнікам мясцовага замка, Сапега запрасіў у Гальшаны айцоў францысканцаў, для патрэб якіх узвёў велічны касцёл і заснаваў кляштар.

Надзвычай карысная дзейнасць айцоў у Гальшанах упісалася залатымі літарамі не толькі ў гісторыю Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных, але і ў гісторыю Каталіцкага Касцёла на гэтых землях. І хоць пасля ліквідацыі кляштара царскімі ўладамі ў 1832 годзе францысканцы мусілі надоўга пакінуць Гальшаны, у 1990 годзе духоўныя сыны св. Францішка вярнуліся да сваёй гістарычнай калыскі. Ім давялося прыняць сур’ёзны выклік аднаўлення знішчанай святыні і адраджэння рэлігійнага жыцця ў парафіі пасля шматгадовай адсутнасці святара.



*Падчас асвячэння памятнага крыжа*



*Важным момантам урачыстасці была эўхарыстычная працэсія вакол касцёла*

Падчас св. Імшы, якую цэлебраваў біскуп Аляксандр Кашкевіч, вернікі дзякавалі Пану Богу за айца пробашча і ўсіх святароў – яго папярэднікаў, якія з вялікай руплівасцю і самапрысвячэннем спаўнялі тут, у Гальшанах, душпастырскае служэнне, спалучаючы цэлебрацыю святых сакрамантаў і клопат пра духоўнае дабро парафіян са справай вяртання годнага выгляду гэтай цудоўнай святыні. Маліліся таксама за дабрадзеяў і ахвярадаўцаў, якія шмат гадоў рознымі спосабамі, але заўсёды з вялікай ахвярнасцю і сапраўдным клопатам прыходзяць са шчодрай і бескарыслівай дапамогай парафіяльнай супольнасці ў справе рамонту і захавання касцёла і кляштарнага комплекса.

У гаміліі біскуп Аляксандр узгадаў постаць св. Яна Хрысціцеля, культ якога жыве на гэтых землях на працягу многіх гадоў і якога продкі сённяшніх гальшанскіх парафіян абралі сваім асаблівым апекуном.

Пасля Эўхарыстыі вернікі прайшлі ў працэсіі вакол касцёла і кляштара. Пробашч а. Багуслаў Вуйтовіч OFMConv падзякаваў прысутным за ўдзел ва ўрачыстасці, а таксама павіншаваў з імянінамі ўсіх, хто носіць імя Ян. Затым усе сабраліся перад уваходам у святыню, дзе ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі асвяціў памятны крыж і юбілейную табліцу да 400-годдзя касцёла і кляштара.

Свята прадоўжылася тэатралізаванай пастаноўкай, падрыхтаванай работнікамі мясцовага аддзела культуры. Затым з канцэртнай праграмай перад удзельнікамі ўрачыстасці выступіў узорны інструментальны ансамбль Гальшанскай дзіцячай школы мастацтваў “Мелодыка”, гурты “Talitha cum” з Віцебска і “MFTau” з Гродна.

*Кінга Красіцкая*

◆ ***Святыня ў стылі барока прадстаўляе сабой каменную трохнефавую бяскупальную базіліку. Першапачаткова мела 2 вежы, сучасны (бязвежавы) выгляд касцёл набыў пасля перабудовы ў 1774 годзе. Асаблівую мастацкую каштоўнасць мае алтар. Роспісы на плоскай алтарнай сцяне выкананы ў тэхніцы галаграмы, што стварае ілюзію аб’ёму. Роспісы ў алтарнай частцы з’явіліся ў канцы XVIII стагоддзя па замове гвардыяна а. Казіміра Храпавіцкага. У касцёле знаходзілася 6 бакавых алтароў: Найсвяцейшай Панны Марыі Беззаганна Зачатай, св. Францішка Асізскага, св. Антонія Падуанскага, св. Юзафа Купертынскага, св. Ганны і св. Юды Тадэвуша.***

◆ ***Кляштар у Гальшанах быў скасаваны ў 1832 годзе. У той час там знаходзіліся 5 манахаў. Для працы ў касцёле ўлады дазволілі пакінуць аднаго – а. Антонія Кавалеўскага. Ён працаваў у Гальшанах 10 гадоў. Пасля яго змяніў а. Францішак Унгурэвіч. Ад 1848 года Гальшаны больш чым на паўтара стагоддзя засталіся без духоўнай паслугі айцоў францысканцаў.***

◆ ***Пры кляштары ў Гальшанах існаваў адзін з самых старажытных шпіталяў, фундуш на які быў нададзены яшчэ Паўлам Сапегам. Для шпіталя быў вызначаны асобны драўляны будынак непадалёк ад кляштара. У розныя часы там знаходзілася да 10-ці чалавек.***

◆ ***У савецкі перыяд у будынку кляштара ў розны час дзейнічалі Дзіцячы дом і школа-інтэрнат.***

◆ ***Францысканцы вярнуліся ў мястэчка ў 90-х гадах XX стагоддзя, калі на хвалі агульнага адраджэння рэлігійнага жыцця будынкі касцёла і кляштара былі вернуты касцёлу. Сёння кляштар цалкам перададзены ва ўласнасць айцоў францысканцаў.***

◆ ***У гальшанскім касцёле знаходзіцца ўнікальны абраз св. Казіміра. Адметнасць яму надае задні фон, на якім адлюстраваны віленскі пейзаж канца XVIII стагоддзя, дакладней, месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю святога: катэдральны касцёл св. Станіслава, Верхні і Ніжні замкі. Касцёл св. Станіслава быў капітальна перабудаваны ў канцы XVIII стагоддзя, і на абразе можна ўбачыць новы воблік святыні. Таксама варта звярнуць увагу на капліцу св. Казіміра, што знаходзіцца з правага боку задняй часткі касцёла. Медны купал італьянскага ўзору пераліваецца на сонцы бронзавым колерам. Адразу за касцёлам знаходзіцца Ніжні замак (рэзідэнцыя Вялікіх князёў літоўскіх), будынак якога быў разабраны ў пачатку XIX стагоддзя расійскімі ўладамі. Гэта адна з нешматлікіх захаваных да нашага часу арыгінальных выяў замка. На ўзвышшы за Ніжнім замкам – Верхні замак, прадстаўлены з незвычайнага ракурсу.***

◆ ***З кляштарам у Гальшанах звязана адна з самых старых і знакамітых легенд мястэчка – легенда аб Белай Даме. Прыкладна 400 гадоў назад у Гальшанах будавалі кляштар. Перад пачаткам працы святары асвяцілі месца, а праз некалькі дзён павольна стала ўзвышацца сцяна. Але наступнай раніцай працаўнікі прыйшлі на будоўлю і ўбачылі замест сцяны гару цэглы. Прыйшлося работу пачынаць нанова. Назаўтра сцяна зноў абвалілася. У будаўнікоў нічога не выходзіла, і яны вырашылі, што трэба прынесці ахвяру. Пастанавілі, што першая жонка, якая прынясе абед свайму мужу на будоўлю, будзе замуравана ў сцяну. Пачуўшы гэта, захваляваўся малады цясляр. Стаў маліць Бога, каб толькі не яго нарачоная прыйшла першай. Але ахвярай стала менавіта яна. Маладую жанчыну замуравалі ў сцяну. З таго часу сцяна не абвальвалася. Цікава, што легенда мела прамое пацвярджэнне: падчас рэстаўрацыйных прац у кляштары некалькі рабочых расчышчалі падзямелле і за кладкай у сцяне знайшлі рэшткі шкілета жанчыны. Косці пахавалі ў зямлі, а душу замураванай не адпелі ў храме. У хуткім часе рабочыя памерлі, а па сцяне, як і шмат гадоў назад, пайшла глыбокая расколіна. Гавораць, з таго часу па калідорах блукае неспакойная душа маладой жанчыны.***

◆ ***У кляштары з 1989 года размяшчаўся філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Праз некаторы час з-за аварыйнага стану будынка яго зачынілі.***

◆ ***На браме-званіцы касцёла св. Яна Хрысціцеля знаходзяцца 3 званы. Большы звон мае надпіс “Moje imię Maryja” (“Маё імя Марыя”). Ён быў адліты братамі Фельчынскімі ў 1930 годзе ў г. Пшэмысль (Польшча). 2-гі звон адліты ў 1930 годзе на сродкі парафіян і пробашча кс. Яна Матулевіча. На ім месціцца надпіс: “Святы Ян Хрысціцель, будзь апекуном парафіі Гальшанскай і ксяндза пробашча”. Цікавасць прадстаўляе 3-ці звон з выявай “Хрышчэнне Езуса”. Адліты ён быў у 1854 годзе. Перажыў бурлівае XX стагоддзе і на сённяшні дзень з’яўляецца адным з самых старэйшых званоў у Ашмянскім раёне.***




## Catholic.by

### *Католікі Латвіі вяжуць шкарпэткі для Папы*

***Арыгінальную ініцыятыву да візіту Святога Айца ў краіну прыдумаў нацыянальны “Карытас”.***

*Гаворка ідзе пра звязаную ўручную на спіцах пару цёплых баваўняных шкарпэтак, упрыгожаных традыцыйным народным арнаментам. Самыя прыгожыя вырабы ўручаць у падарунак папу Францішку. Астатнія шкарпэткі ў якасці гуманітарнай дапамогі будуць перададзены ва Украіну, у раёны, пацярпелыя ад вайны. Разам з гэтым “Карытас” запрашае вернікаў, асабліва ўдзельнікаў конкурсу, маліцца за мір у свеце.*




### *Відэаролік Святога Пасаду атрымаў прэмію*

***Кароткі фільм, што даступны на 30-ці розных мовах, апавядае пра феномен міграцыі і драму сотняў тысяч людзей, вымушаных уцякаць ад вайны, голаду, беднасці, праследавання, праблем навакольнага асяроддзя, выкліканых кліматычнымі зменамі.***

*Ролік атрымаў прэмію ў намінацыі “Лепшая сацыяльная стратэгія” на міжнародным фестывалі сацыяльнай рэкламы “Publifestival” у Мадрыдзе (Іспанія). Мэта відэафільма – дапамагчы распаўсюдзіць пасланне, якое ўзрушвае і мабілізуе, дасягаючы мільёнаў людзей ва ўсім свеце. У ім выразна гучаць словы папы Францішка, які нагадвае, што міграцыя не з’яўляецца новым феноменам у гісторыі чалавецтва. Супольным адказам на гэтую з’яву, на думку Пантыфіка, павінна стаць прыняцце, абарона, падтрымка і інтэграцыя мігрантаў.*




### *Беатыфікавана Сястра Убогіх*

***С. Марыя Кармэн Рэндзілэс Марцінэз з Венесуэлы з’яўляецца заснавальніцай Кангрэгацыі Служак Езуса.***

*Маці Кармэн – як называлі яе сёстры – нарадзілася ў 1903 годзе. З самага нараджэння змагалася з інваліднасцю з-за нераспрацаванага левага пляча. На працягу ўсяго жыцця карысталася цяжкім пратэзам, аднак гэта не стала для яе перашкодай для выканання хатніх спраў, атрымання адукацыі і служэння Касцёлу.*

*Сваёй вялікай любоўю с. Марыя Кармэн ахінала асабліва найбяднейшых, чым заслужыла прозвішча Сястры Убогіх. Давяраючы Богу, адкрывала сваё сэрца кожнаму, перш за ўсё патрабуючым.*




### Як будучых святароў вучаць спавядаць?

*Падчас вучобы ў духоўнай семінарыі клерыкі праходзяць навучанне і атрымліваюць веды ў сферы філасофіі і тэалогіі. У межах вывучэння таго, што датычыцца канкрэтна сакраманту пакаяння, разглядаюцца многія пытанні, напрыклад: для чаго існуе споведзь, якая ў ёй роля святара, як правільна разумець умовы споведзі, каб яна была сапраўднай.*

*Канешне, вывучаюцца і практычныя моманты гэтага сакраманту. Кожны святар павінен ведаць формулу адпушчэння грахоў, як падыходзіць да чалавека, якое накладваць пакаянне. Таксама вывучаецца правільнае з пункту гледжання псіхалогіі стаўленне да розных людзей, як і каму варта даваць духоўныя настаўленні. Спаведнік павінен умець дапамагчы чалавеку добра паспавядацца, пабудзіць яго да сапраўднай скрухі і прыняцця рашэння выправіцца.*

*Выкладчыкі стараюцца па максімуму ствbooыць на лекцыях разнастайныя сітуацыі споведзі, прадставіць розных людзей і іх жыццёвыя моманты, цяжкасці. Напрыклад, моладзі або дзяцей, вернікаў, якія рэдка прыступаюць да гэтага сакраманту, або тых, хто мае не да канца сфарміраваныя духоўнасць і сумленне. Таксама будучыя святары вывучаюць выпадкі, у якіх споведзь можа быць несапраўднай.*

*Шмат часу прысвячаецца вывучэнню і разуменню строгага захавання таямніцы споведзі, якое патрабуецца ад спаведніка. Выкладчыкі намагаюцца “стварыць” цяжкія ўмовы, каб будучы святар адчуў і зразумеў усю важнасць таямніцы пакаяння.*

*У Кодэксе кананічнага права ўказваецца, што “задаючы пытанні, святар абавязаны рабіць гэта разважліва і разборліва, прымаючы пад увагу становішча і ўзрост таго, хто каецца, і ўстрымлівацца ад роспытаў пра імя саўдзельніка граху” (кан. 979). Аднак можа здарыцца так, што некаторыя жыццёвыя абставіны (напрыклад, несакраментальны шлюб, прабыванне ў цяжкім граху на працягу доўгага часу без шкадавання і рашэння выправіцца), могуць зрабіць немагчымым поўнае прымірэнне з Богам. Адмова ў адпушчэнні грахоў не мае на мэце раніць грэшніка або прынізіць яго, але павінна дапамагчы яму адкрыцца Богу. Спаведнік, які ўсведамляе, што не можа адпусціць грахі, павінен далікатна, з любоўю растлумачыць, чаму ён павінен так паступіць, і пабудзіць таго, хто каецца, да веры ў Божую любоў і да малітвы, якая дапаможа яму ўбачыць сапраўдны стан яго душы. Некаторым патрэбны час, каб “даспець” да поўнага навяртання і прымірэння.*

*У канцы навучання адбываецца экзамен, дзе выкладчык цікавіцца не толькі ведамі будучага святара пра сакрамант пакаяння, але і, як было сказана раней, стварае для яго як бы прыклад споведзі з рознымі людзьмі, рознымі жыццёвымі абставінамі і цяжкасцямі.*

*Кс. Віктар Ханько*
***Паводле grodnensis.by***

# “МОЙ КРЫЖ – МАЁ НАТХНЕННЕ”

*Кнігу вершаў пад такой назвай выдала Алеся Філіпава – парафіянка слонімскага касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У сваіх творах маладая жанчына і мама распавядае пра вялікую любоў да Бога, дзяцей і сваёй сям’і, да людзей і навакольнага свету.*






## ШЛЯХ ДА ВЕРЫ

Аўтарка кнігі вершаў Алеся Філіпава нарадзілася ў г. Рэчыца, што на Гомельшчыне. На вялікі жаль, жанчына не можа пахваліцца тым, што з самага дзяцінства ёй прывівалі веру: бацькі былі непрактыкуючымі праваслаўнымі.

***“Памятаю сваё дзяцінства... Бабуля перад тым, як класціся спаць, заўсёды шаптала нейкія словы перад іконай. Гэта была выява св. Мікалая Цудатворцы. Але тады я гэтага не ведала, мне падавалася, што яна размаўляе з Богам. Мне таксама вельмі моцна хацелася маліцца, але я не ўмела, таму проста вяла размову з Богам у цішыні свайго сэрца,*** – распавядае Алеся. – ***Канешне, найбольш важныя хрысціянскія святы ў нашай сям’і адзначаліся. Напрыклад, на Вялікдзень хадзілі ў храм, каб асвяціць яйкі і кулічы. Толькі калі пасля сядалі за стол, ніхто не тлумачыў, навошта ўсё гэта”.***

Аўтарка ўзгадвае выпадак, калі аднойчы яе мама пачала распавядаць пра сваю знаёмую, якая збіраецца паехаць у Жыровіцкі манастыр. Алеся зацікавілася гэтым месцам, нават пэўны час разважала над тым, каб стаць манахіняй. Але Бог меў адносна яе іншыя планы.

***“У 2005 годзе я скончыла філалагічны факультэт мазырскага педуніверсітэта. Планавала ўладкавацца выхавацелькай у дзіцячы садок, але мне прапанавалі працу фатографа. Калі праходзіла стажыроўку, пазнаёмілася са сваім будучым мужам, які паходзіць са Слоніма,*** – успамінае Алеся. – ***Прыехаўшы ў яго родны горад, мы шмат гулялі па вуліцах. Памятаю, што мяне заўсёды цягнула ў касцёл св. апостала Андрэя. Мы зайшлі туды адзін раз, потым яшчэ і яшчэ... На той момант пробашчам быў а. Вітольд Жыльветра. Ён нас заўважыў, запрасіў на размову – і з таго моманту мы ўжо не пакідалі храм. Там была настолькі добрая атмасфера, што хацелася заставацца ў гэтых сценах як мага даўжэй”.***

Алеся гаворыць, што паступова ў яе выспела жаданне далучыцца да каталіцкай супольнасці. ***“Мы прыходзілі ў касцёл на сустрэчы, шмат размаўлялі з айцом. Рыхтаваліся з поўнай адказнасцю, бо разумелі, што робім вельмі важны крок у сваім жыцці. Найбольш узрушаючым стаў момант першай споведзі і Камуніі,*** – дзеліцца Алеся. ***– Нам, ужо дарослым людзям, трэба было адкрыць самыя патаемныя закуткі сваёй душы. Лічу, што вялікую ролю адыграў той факт, што мы з мужам, хоць і жылі сярод непрактыкуючых хрысціян, былі ахрышчаны. Таму Святы Дух усё ж дзейнічаў і прывёў нас туды, куды трэба. Мы разам выбралі гэтую дарогу. У касцёле св. апостала Андрэя ўзялі шлюб, там жа ахрысцілі свайго першынца. Для мяне вялікім выпрабаваннем веры стала хвароба мамы. Гэта быў вельмі няпросты перыяд: я мала малілася, крыўдзілася на Бога. Але пасля, калі матулі не стала, я неяк пераасэнсавала сваё стаўленне, зразумела, што не ўсё залежыць ад чалавека – на ўсё Божая воля”.***


Алеся Філіпава разам з мужам і дзецьмі падчас сустрэчы з а. Валерыем Мазюком

Узгадваючы, як будавалася маладая сям’я Філіпавых, жанчына падкрэслівае, што пачыналі ў беднасці, сціпласці і прастаце, але, нягледзячы на гэта, былі самымі шчаслівымі. ***“Памятаю, аднойчы на Вялікдзень не маглі сабе дазволіць накрыць багаты стол – згатавалі звычайныя простыя стравы, але святкавалі з добрым настроем. Не адчувалі сябе ў нечым абдзеленымі, бо на першым плане быў духоўны аспект свята, а не пышнае ўбранства і гастранамічныя вынаходствы. Паступова з умацаваннем веры пачало прыбываць і на стале. І зараз за ўсё, што маем, дзякуем Богу. Таксама стараемся выхоўваць сваіх дзяцей так, каб людзі, гледзячы на іх, разумелі, што яны добрыя і адданыя хрысціяне. Для нас важна, каб сыны пачыналі свой дзень з малітвы, каб клаліся спаць, праслаўляючы Бога. І рабілі гэта не пад прымусам. Хочацца, каб яны навучыліся ісці праз жыццё поруч з Езусам”***, – зазначае Алеся.

Пасля таго, як у касцёле змяніўся пробашч, сям’я Філіпавых пачала наведваць касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, які месціцца бліжэй да іх дома. Пазнаёміліся і пасябравалі з кс. пробашчам Ігарам Анісімавым, пачалі па меры магчымасцей дапамагаць у парафіі.

Алеся гаворыць, што служэнне мясцовых ксяндзоў дазволіла ёй упэўніцца ў тым, што святар – гэта пасланнік Бога: ***“Заклікаю ўсіх любіць і паважаць сваіх пастыраў, бо яны кормяць нас Божым словам і каштоўным Хлебам дзеля нашага збаўлення. Заклікаю маліцца, каб рукі ксяндзоў былі адкрытымі і гарачымі для дзялення з намі Божай любоўю”.***

## “МАЕ ВЕРШЫ – ГЭТА ЛЮБОЎ, А ЛЮБОЎ – ГЭТА БОГ!”

Алеся адзначае, што яе паэтычны талент праяўляўся яшчэ ў дзяцінстве. Калі задавалі пісаць сачыненне, ёй заўсёды хацелася скласці верш. Пасля, у юнацкім узросце, яна перастала завастраць сваю ўвагу на гэтых здольнасцях.

***“Аднойчы я напісала верш – падзяку кс. Ігару Анісімаву. Потым нарадзілася яшчэ некалькі вершаў... Але яны ляжалі, схаваныя ў шуфлядзе,*** – гаворыць аўтарка. ***– У 2016 годзе наша парафія перажывала святыя місіі, якія праводзілі айцы рэдэптарысты Анджэй Ядкоўскі і Валерый Мазюк. У якасці падзякі за магчымасць духоўнага аднаўлення я выйшла і прачытала ўласны верш. Памятаю, што а. Валерый быў вельмі ўражаны і папрасіў мяне паабяцаць, што выдам свой паэтычны зборнік, а ён тады стане першым чытачом. Я згодна кіўнула”.***

Аўтарка выношвала ідэю на працягу года, прасіла ў Бога падтрымкі, і, урэшце, узялася за працу. Натхненне часам прыходзіла ў зусім нечаканы момант – у дарозе, сярод ночы. Некаторыя радкі нараджаліся ў выніку нейкіх знакавых падзей. У выніку атрымалася невялікая па памерах кніжка, але напісаная ад душы. ***“Мае вершы – гэта мае малітвы, мой невялікі жыццёвы вопыт. Гэта мае падзенні і ўзлёты, якія я пераадольвала разам з Богам. У паэтычных радках заключана невялікая кропля ўдзячнасці за маё жыццё. А невялікая, бо нішто не можа быць большым і мацнейшым за Божую любоў. Мае вершы – гэта вера ў тое, што хтосьці захоча змяніць сваё жыццё, расхінуць сваё сэрца і, узняўшы рукі да Неба, з глыбокай верай прашаптаць: «Ойча наш...». Мае вершы – гэта надзея! Надзея на тое, што кожная мама на зямлі навучыць сваё дзіцятка маліцца. Надзея на тое, што кожны чалавек абавязкова набудзе жыццёвую мудрасць і навучыцца любіць сябе і бліжніх. Надзея, што людзі ў глыбокім пакаянні і малітве сарвуць ланцугі граху са сваіх душ і аб’ядноўваюцца з Хрыстом. Мае вершы – гэта любоў, а любоў – гэта Бог!”*** – гаворыць Алеся.

Аўтарка таксама падкрэслівае, што ў працу над выданнем кнігі было ўцягнута шмат людзей, якія дапамаглі не толькі добрым словам ці карыснай парадай: ***“С. Віргінія Хацян CSFN пазнаёміла мяне з Таццянай Шэйно, якая зрабіла непаўторныя ілюстрацыі да маіх вершаў. Таксама дзякуючы намаганням манахіні чарнавы варыянт кніжкі трапіў да кс. Тадэвуша Крыштопіка. Ён дапамог знайсці тыпаграфію, якая пагадзілася надрукаваць мае вершы. Да гэтага шматлікія выдавецтвы адмаўляліся са мной супрацоўнічаць, бо бачылі, што кніга мае рэлігійны падтэкст. Так, дзякуючы ўсім неабыякавым людзям, 1000 асобнікаў майго зборніка вершаў пабачылі свет”.***

Алеся Філіпава друкавала кнігу за ўласныя сродкі, але не збіраецца яе прадаваць, каб вярнуць грошы: яна прызначыла кнігу на дабрачынныя мэты. Частку экземпляраў аддала а. Валерыю і с. Віргініі, некалькі асобнікаў перадала малітоўнай групе “У абарону жыцця”. Асноўная колькасць кніг будзе распаўсюджвацца ў парафіі ўзамен на ахвяраванні, якія будуць прызначаны на аднаўленне прыкасцёльнай брамы.

*Кінга Красіцкая*

НАВІНЫ

## ДА МАЦІ БОЖАЙ!

На ўрачыстасці ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе з Гродзенскай дыяцэзіі прыбылі пешыя пілігрымкі з Ліды, Гудагая і Смаргоні, у Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях – паломнікі з Гродна, Ваўкавыска, Іўя, Навагрудка, Ашмянаў. На абедзвюх урачыстасцях прысутнічалі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

ПРЫЗНАЧЭННІ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч здзейсніў шэраг персанальных змен святароў, якія служаць у дыяцэзіі. **Кс. Віталій Вайцяхоўскі** прызначаны рэктарам МВДС у Гродне. **Кс. Ян Варанецкі** – вікарыем катэдральнай парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Туды ж накіраваны **дк. Эрнэст Мікалайчык. Кс. Ян Кузюк** прызначаны вікарыем парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Гродне і душпастырам глуханямых у Гродне. **Кс. Аляксей Венцкевіч SCJ** – вікарыем парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне. **Кс. Аляксандр Рудзевіч** – пробашчам парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзярэчыне (дэканат Слонім). **Кс. Яўген Учкуроніс** – пробашчам парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні. **Кс. Дзмітрый Урбановіч** – пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Ішчолне і парафіі Хрыста Валадара ў Скрыбаўцах, **кс. Андрэй Кеўлюк** – пробашчам парафіі св. Антонія і Аб'яўлення Пана ў Каменцы і парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Дзембраве (дэканат Шчучын). **Кс. Андрэй Пышынскі** – пробашчам парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса ў Рандзілаўшчыне (дэканат Дзятлава). **Кс. Юрый Садоўскі** – вікарыем парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах. **Кс. Юрый Гурскі** – вікарыем парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ у Лідзе. У парафію Святой Сям'і ў Лідзе скіраваны **дк. Раман Вайцяховіч. Кс. Віталій Пяткевіч і кс. Анджэй Ганчар** прызначаны вікарыямі парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску. **Кс. Валерый Спірыдон** – пробашчам парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Мсцібаве (дэканат Ваўкавыск).

АДНЫМ РАДКОМ

• Пры навагрудскай парафіі св. Міхала Арханёла пад кіраўніцтвам а. Юзафа Аўгустына SJ прайшлі ігнацыянскія рэкалекцыі, у якіх прынялі ўдзел шматлікія вернікі і духоўныя асобы. • Дабрачынная група "Уваскрасенне" Душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN" пад кіраўніцтвам кс. каноніка Антонія Грэмзы арганізавала ў Каробчыцах свята для дзяцей з карэкцыйных цэнтраў г. Гродна. • Падчас св. Імшы ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі выпускнікі гродзенскага медуніверсітэта з Нігерыі ўрачыста падзякавалі Богу за час вучобы і за новых сяброў.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by***

АНОНСЫ

## ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З ГРОДНА Ў НАВУМАВІЧЫ

**Паломнікі накіруюцца да месца спачыну расстраляных падчас II Сусветнай вайны жыхароў Гродна і Ліпска. Дэвіз сёлетняй пілігрымкі – "Каб сведчанне іх не было забытае".**

Паломніцтва распачнецца 14 ліпеня. Збор у касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі) у 12.00, дзе адбудзецца супольная малітва, адарацыя Найсвяцейшага сакраманту і блаславенне. Пілігрымы прыбудуць на Форт №2 каля Навумавічаў, каб прыняць удзел у св. Імшы ў памяць аб загінулых. Яе пачатак у 19.00.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефоне: (8 029) 286-31-78, кс. Антоній Грэмза.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 ліпеня 1942 г.** – а. Дыянізій Клімчак OFMConv., *проб. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Казімір Шыпіла, *вік. Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. Юстын Скакоўскі, *капелан сясцёр назарэтанак, Гродна;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. д-р Юзаф Казлоўскі, *проб. Ваўкавыск;*
**15 ліпеня 1943 г.** – кс. кан. Марэк Бурак, *проб. Мсцібава;*
**16 ліпеня 1973 г.** – кс. Адам Вайцяхоўскі, *проб. Гудагай;*
**16 ліпеня 2006 г.** – бр. Бярнард Бяленік OFMConv., *Гальшаны–Гродна;*
**18 ліпеня 1946 г.** – кс. кан. д-р Альбін Яршэвіч, *проб. Гродна.*

АНОНСЫ

## УРАЧЫСТАСЦІ МАЦІ БОЖАЙ ШКАПЛЕРНАЙ АДБУДУЦЦА Ў ГУДАГАІ

**Сёлета ўрачыстасць будзе спалучана з унясеннем у санктуарый рэліквій св. Яна Паўла II, які ў 2003 годзе блаславіў папскія кароны для абраза Маці Божай Гудагайскай.**

**Праграма:**

**14 ліпеня**
18.00 – св. Імша з удзелам святароў новапрэзбітэраў і юбіляраў;
– заканчэнне Навэнны да Маці Божай;
20.00 – Крыжовы шлях;
23.15 – марыйныя Нешпары.

**15 ліпеня**
00.00 – працэсія са свечкамі;
– св. Імша (узначаліць дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі);
– начное чуванне і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;
08.30 – Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці НПМ;
09.30 – св. Імша (на польскай мове);
11.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
12.00 – урачыстая адпустовая св. Імша (узначаліць Апостальскі нунцый у Беларусі кс. абп Габар Пінтэр).

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У МЯДЗЕЛІ

**Духоўныя практыкаванні аб пакліканні і выбары жыццёвага шляху для хлопцаў ад 14-ці гадоў адбудуцца 27–30 ліпеня.**

*По пытаннях удзелу ў рэкалекцыях звяртацца па тэлефонах:*
*(8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD,*
*(8 029) 557-69-12 – а. Генрых Валейка OCD.*

## 75-ГОДДЗЕ СМЕРЦІ БЛАСЛАЎЛЁНЫХ СЯСЦЁР НАЗАРЭТАНАК АДЗНАЧАЦЬ У НАВАГРУДКУ

**С. Марыя Стэла і яе 10 паплечніц былі расстраляны ў Батароўскім лесе каля Навагрудка 1 жніўня 1943 года. Манахіні беатыфікаваны папам Янам Паўлам II 5 сакавіка 2000 года.**

**Праграма:**

**28 ліпеня**
каля 17.30 – прывітанне пілігрымаў;
– малітва на месцы расстрэлу сясцёр;
18.00 – св. Імша ў лесе на месцы мучаніцтва (узначаліць кс. абп Тадэвуш Война, Мітрапаліт Беластоцкі, з удзелам кс. аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага);
22.00 – пачатак чування ў навагрудскім фарным касцёле Перамянення Пана;
– канферэнцыя;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту;
23.00 – адарацыя, якую праводзяць сёстры назарэтанкі.

**29 ліпеня**
00.00 – адарацыя, якую праводзіць моладзь;
1.00 – адарацыя, якую праводзяць вернікі з Ліды;
2.00 – Крыжовы шлях;
3.00 – адарацыя, якую праводзяць пілігрымы;
4.30 – св. Імша (узначаліць біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка);
9.30 – кароткая праграма пра блаславёных сясцёр мучаніц;
10.00 – св. Імша ў фарным касцёле Перамянення Пана (узначаліць Апостальскі нунцый у Беларусі кс. абп Габар Пінтэр);
– на заканчэнне св. Імшы будзе прачытаны дэкрэт, які ўстанаўлівае фарны касцёл санктуарыем блаславёных сясцёр мучаніц з Навагрудка.

## РЭКАЛЕКЦЫІ РАСПАЗНАННЯ ПАКЛІКАННЯ АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні на тэму "Моцны ў Хрысце" будуць праходзіць з 30 ліпеня па 2 жніўня ў будынку Вышэйшай духоўнай семінарыі.**

Да ўдзелу запрашаюцца юнакі, асаблівым чынам міністранты ад 14-ці гадоў. Духоўныя практыкаванні маюць на мэце дапамагчы маладым людзям зразумець, да чаго іх кліча Бог. Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат семінарыйнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, а таксама ўзбагаціць свае веды адносна праўд веры і малітвы.

*Аб планаваным удзеле ў сустрэчы трэба паведаміць да 25 ліпеня. Колькасць удзельнікаў абмежаваная.*

*З сабой неабходна мець коўдру і спартыўнае адзенне.*

*Адказны за рэкалекцыі – кс. Андрэй Лішко, (8 029) 744-99-61. Запіс па тэлефоне: (8-0152) 77-02-34.*

## ПЕШАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З ГРОДНА Ў РОСЬ У 17-ТЫ РАЗ

**Паломніцтва ў санктуарый Езуса Журботнага пройдзе 3–5 жніўня пад дэвізам "Жыць Евангеллем".**

Пілігрымы па традыцыі выйдуць з касцёла Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы). Св. Імша на распачацце адбудзецца ў 7.00.

*Заяўкі на ўдзел у паломніцтве прымаюцца штодня ў касцёле Гродна-Паўднёвы або па тэлефоне: (8 029) 784-05-72, кс. Юрый Марціновіч. Там жа 1 жніўня ў 20.00 адбудзецца арганізацыйная сустрэча.*

## XXVI ЭКУМЕНІЧНАЯ ПІЛІГРЫМКА ВЫРУШЫЦЬ З БЕЛАСТОКА Ў ВІЛЬНЮС

**Паломніцтва ў санктуарый Маці Божай Вастрабрамскай пройдзе 16–25 жніўня пад дэвізам "Моцныя ў Духу".**

Пілігрымы пераадолеюць шлях працягласцю каля 300 км, наведваючы па дарозе каталіцкія і праваслаўныя святыні.

Траса: Беласток – Шудзялова – Кузніца – Гродна – Азёры – Новы Двор – Радунь – Бутрымансы – Яшуны – Вільнюс. У Гродна вернікі прыбудуць у канцы 3-га дня свайго падарожжа. Тут да пілігрымкі далучацца мясцовыя жыхары.

*Аб жаданні далучыцца да паломніцтва неабходна паведаміць да 10 ліпеня каардынатару з беларускага боку кс. Паўлу Безляповічу па тэлефоне: (8 029) 266-77-03.*

## Каляндар падзей

***11 ліпеня***
*Свята св. Бенедыкта, абата, апекуна Еўропы.*

***14 ліпеня***
*Гадавіна мучаніцкай смерці бл. Мар'яны Бярнацкай, святароў і жыхароў Гродна і ваколіц, расстраляных 13–16.07.1943 года на Фартах каля Навумавічаў.*

***16 ліпеня***
*Успамін НПМ з Гары Кармэль.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Ліпень***

*Каб уся дыяцэзіяльная супольнасць (біскупы, святары, кансэкраваныя асобы і вернікі) была адказная за справу Першага дыяцэзіяльнага сінода.*

# ХЛОПЧЫК І КАЦЯНЯ

*Цэлы дзень ліў халодны дождж.*

*Дзіма вярнуўся дамоў з вуліцы, паабедаў і ўспомніў, што мама прасіла яго схадзіць у магазін.*

*Каля магазіна знаходзілася летняя прыбудова. І вось недзе адтуль ужо каторы дзень было чуваць голаснае мяўканне ката. Людзі спыняліся і заглядалі пад прыбудову. Дзіма таксама падышоў паглядзець, адкуль даносяцца жаласлівыя гукі. Каля прыбудовы стаялі некалькі жанчын і грузчык.*

*– Гэты кот, відаць, зашыўся пад падлогу і не можа вылезці, – гаварыў мужчына.*

*– Дык вызавем ратавальнікаў! – умяшаўся Дзіма.*

*Ён папрасіў дазволу ў прадаўцоў патэлефанаваць на нумар службы выратавання. Паабяцалі хутка прыехаць. Тым часам Дзіма купіў усё неабходнае і хуценька занёс пакеты дамоў. Жыў ён насупраць магазіна. А калі вярнуўся назад, то ўбачыў, што пад'ехала невялікая машына, а ў ёй – двое мужчын. Яны ўвайшлі ў прыбудову і пачалі прыслухоўвацца.*

*З-пад падлогі даносіўся ўжо не гучны, а хрыплы піск. Ратавальнікі прыпаднялі дошкі і дасталі адтуль маленькае кацяня. Яно прыціснулася да зямлі, а пасля ўскочыла і рынулася наўцёкі. Але адна з жанчын паспела ўхапіць яго за карк.*

*– І куды цяпер гэтага няшчаснага? – спытаў адзін з ратавальнікаў. – Ён ізноў залезе ў шчыліну і сканае там у цемры ад голаду і страху.*

*– Давайце мне, – раптам прапанаваў Дзіма. – У мяне ёсць два каты...*

*– А гэта кошачка, – з усмешкай заўважыла жанчына.*

*– Нічога, няхай будзе. Каму-небудзь падару, – упэўнена сказаў хлопчык.*

*– Мала ахвотных на такія падарункі! – вымавіў нехта з натоўпу. – І чаму толькі людзі бяруць, а пасля выкідваюць іх, каб памерлі з голаду ці пад коламі машыны?*

*– А таму што па-сапраўднаму не вераць у Бога! – заўважыў Дзіма.*

*Хлопчык моцна прыціснуў да грудзей кацяня, якое спярша старалася вырвацца, але хутка суцішылася, і панёс дамоў.*

*– І навошта табе яшчэ адзін кот? – спытаў сусед, які ішоў насустрач.*

*– На тое, каб уратаваць яму жыццё. Гэта не папера, што скамячыў, а пасля выкінуў у сметнік, а жывая істота, якая адчувае боль, голад, адзіноту. А абыякавасць да ўсяго жывога – гэта грэх і недобрасумленнасць.*



*Галіна Здановіч, г. Ваўкавыск*

## Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Барташэвічу**
з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў і Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны, Бог, якому даверыліся, да канца жыцця адорвае Вас сваімі ласкамі і добрым здароўем, а Маці Божая штодзённа Вамі апекуецца. Жадаем шмат радасных і шчаслівых хвілін, сіл і стойкасці ў нялёгкай і адказнай святарскай паслузе. Дзякуем за Божае слова, якое засяваеце ў нашых сэрцах.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" і парафіяне з Жырмунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Кеўлюку**
з нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Твой дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці, заўсёды хапае сіл для рэалізацыі планаў і намераў, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Мама і родныя*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Савіцкаму**
з нагоды 11-годдзя святарскай паслугі перасылаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў і блаславення на кожны дзень, моцнага здароўя, шчасця, нястомнай радасці, поспехаў, шмат сіл і стойкасці на нялёгкім святарскім шляху, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух удзяляе Вам свае дары, а Маці Божая прытуляе да сэрца і дапамагае ва ўсіх патрэбах.

*Былыя суседзі са Свярдлова-Ліды*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віталій Цыбульскі!**
З нагоды Імянін прыміце ад нас букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, шчасця, задавальнення ад душпастырскай працы, радасці. Няхай міласэрны Езус прытуляе Вас да свайго сэрца і заўсёды блаславляе на добрыя ўчынкі, Маці Божая трымае ў сваёй апецы, а святы Заступнік засцерагае ад няшчасцяў. Мы адчуваем Ваш клопат пра нас, бачым, колькі намаганняў прыкладваеце для таго, каб наша гістарычная святыня і яе наваколле радавалі ўсіх парафіян. Дзякуючы Вашым намаганням і з дапамогай добрых людзей усё задуманае здзяйсняецца. Няхай на ўсё хапае духоўных і фізічных сіл! Нашыя найлепшыя пажаданні Вашым бацькам. Дзякуем ім за выхаванне сына святара і дапамогу пры касцёле.

*З павагай, парафіяне з касцёла св. Казіміра ва Уселюбе*

**Паважанаму Ксяндзу Зянону Рамейку**
з нагоды юбілею і Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні і словы вялікай удзячнасці. Жадаем Вам моцнага здароўя, сонца, цяпла, радасці ад сустрэчы з кожным чалавекам, апекі Найсвяцейшай Маці і Божага блаславлення. Няхай зярняты, якія Вы засяваеце на даручаных Вам нівах, не згінуць, а прынясуць шчодры плён. Дзякуем Вам за дабрыню сэрца, мужнасць, клопат пра нас, за абвяшчэнне Божага слова, якое ўзбагачае нашыя розумы. Аддзяч, Божа, за працу ў нашай парафіі!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і парафіяне з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Анатолю Захарэўскаму**
з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, блаславлення, мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Святы Дух асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Міхалішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Внароўскаму**
з нагоды Імянін жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл у рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай Пан Бог блаславляе Вас, Найсвяцейшая Панна Марыя і Анёл-ахоўнік вядуць шчаслівым шляхам, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і прыносіць радасць, суцяшэнне і дні, напоўненыя Яго дарамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам, Адэльск*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні: Божага блаславлення, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, усіх ласкаў ад Хрыста. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці, усмешак, цярплівасці і добразычлівых людзей побач. Дзякуем за адкрытае сэрца, адданую службу Богу і людзям.

*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Варанецкаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення на кожны дзень жыцця, душэўнага супакою, усмешкі, шмат радасці і здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і адорвае сваімі дарамі, а Панна Марыя ахінае Вас мацярынскім плашчом і дапамагае заўсёды і ўсюды. Шчасці Божа!

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 3511; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная